# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік



Агульны сход сяброў Таварыства Беларускае Моладзі ў Латвіі, які адбыўся 19 лістападу 1933 году ў Рызе ў памешканьні Торэнзбэргскае прыватнае 6-кл. школы Таварыства Беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

№ 7 (24) Рыга, кастрычнік-сьнежань 1933 году № 7 (24)

## Зьмест № 7 (24):

**Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі. Кангрэсавец**—Да гісторыі распаду Беларускае Народнае Рэспублікі. **К. Рыскі**—Вынікі этнографічнага дасьледваньня Себежчыны, Невельшчыны і Вяліжчыны. **С. Сахараў**—Бацькі і дзеці. **Цантральнае Праўленьне Т-ва Беларускіх вучыцялёў**—Дзьве цікавых пэдагогічных выстаўкі. **Адраджэнец** — Беларуская меншасьць у Літве усё яшчэ не атрымала ніводнае беларускае школы. **К. Езавітаў**—Беларускія школы у Латвіі у 1933-34 навучальным годзе. **С. Раманейка**—Лістападаўскае (Верш). **Саўка Сьлядзеўскі**—Песьня моладзі (Верш). **Алесь Намавір**—Беларусі (Верш). **В. Лепельчанка**—Покліч да працы (Верш). **Пятро Сакол**—Пры моры (Верш). **Праца Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі. З жыцьця** Беларускае Моладзі у Латвіі. **Сходы** бацькоў беларускіх школ у Рызе. **Пісьмо** у Рэдакцыю.

---

# Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.

**Вечарына Торэнзбэргскай школы Т-ва Беларускіх вучыцялёў** адбылася 2 сьнежня у памешканьні гэтае школы на Брыўзэмнека 22 у Рызе на новапабудаванай сцэне гэтае школы. Ставілася п'еса „Мікітаў Лапаць", якая была адыграна артыстамі Беларускага Народнага Тэатру. Затым адбылося канцэртнае аддзяленьне, у якім выступілі: вольныя мастачкі — піяністка В. Бароўская-Шгулеўская, з некалькімі намярамі на раялю, і сьпявачка А. Латонас-Дзямідава з беларускімі і латыскімі народнымі песьнямі, а на заканчэньне Беларускі Хор Дзяржаўных Вучыцельскіх Курсаў пад кіраўніцтвам М. Грыўскага. Па канцэрце адбыліся танцы, распачатыя традыцыйнай беларускай „Лявоніхай". Вечарына прайшла з добрым моральным і матар'яльным посьпехам.

**На дапамогі бяднейшым вучням Рыскіх беларускіх аснаўных школ** Рыскі самаўрад адпусьціў у гэтым годзе: для 1-е Рыскае школы 570 латаў, а для 2-й Рыскай школы—304 латы.

**Гарачыя фрыштыкі для дзяцей беларускіх школ у Рызе** арганізаваны у гэтым годзе, у зьвязку з крызісам і безпрацоўем, у больш шырокім маштабе, чым гэта практыкавалася у мінулым годзе. Рыская Мястовая Управа таксама падвялічыла сваю дапамогу на гэтую справу і зара' адпушчае сродкі на фрыштыкі: для 1-е беларускае школы на 95 вучняў, для 2-е беларускае школы на 50 вучняў і для Вячэрняе школы на 50 вучняў. Гарачыя фрыштыкі ў Торэнзбрэргскай беларускай прыватнай школе Т-ва Беларускіх вучыцялёў і у Дзіцячым Садзе гэтага Т-ва выдаюцца з сум, сабраных гэтым Т-вам праз сяброўскія складкі і ахвяры беларускага вучыцельства у Рызе.

**Зварот з пастухоў вучняў Рыскіх беларускіх школ** закончыўся у гэтым годзе надзвычайна позна. Гаспадары затрымалі на вёсках некаторых вучняў-беларусаў да канца лістападу. Шмат вучняў-беларусаў не атрымала ад гаспадароў належнае ім платы за працу і зара' бацькі іх змушаны перадаваць справу у суд.

Цяжкія наагул варункі, пры якіх прыходзіцца працаваць нашым вучням-пастухам на вёсках у Курляндыі і Ліфляндыі, у гэтым годзе яшчэ больш пагоршыліся. Шмат дзе вучняў-пастухоў дужа блага кармілі, змушалі працаваць у час паўднёвага перапынку, калі пастух прыганяе стада да хаты і за-звычай мае на гадзіну адпачынак, які карыстае на сон. У надзвычайна нялюдзкіх умовах апынулася некалькі вучняў-пастухоў, якім прызначылі спаць у нейкіх закутах, дзе немагчыма было адбіцца ад клапоў, вашэй і блох. Адна маці са сьлязьмі і абурэньнем прывязла у школу цэлую жменю вялізарнейшых вашэй, якіх сабрала на кашуле свайго сына, пабываўшы у яго у гасьцёх. Цэлы пудэлячак гэтых паразытаў накіраваны у суд пры заяве аб нявыплаце пастуху грошы.

**Елкі і сьвяткаваньні у беларускіх школах у Рызе** адбудуцца у гэтым навучальным годзе у гэткім парадку:

У суботу 53 сьнежня адбудзецца ёлка у Вячэрняй і Дадатковай школах для дарослых на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўская вуліца 14-16;

у панядзелак, 25 сьнежня—у 2-й Рыскай беларускай аснаўной школе на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўская 14-16;

у суботу 30 сьнежня у 1-й Рыскай беларускай аснаўной школе адбудзецца урачысты акт з поваду 10-ых угодкаў існаваньня гэтае школы;

у панядзелак 1 студзеня 1934 году адбудзецца ёлка для дзяцей 1-е Рыскае беларускае мястовае школы на Маскоўскай вуліцы 173;

У нядзелю 7 студзеня 1934 году адбудзецца ёлка у Торэнзбэргскай прыватнай школе Т-ва Беларускіх вучыцялёў на вуліцы Брыўзэмнека 22;

у суботу 13 студзеня 1934 году—у Рыскай вячэрняй гімназіі Т-ва Беларускіх вучыцялёў на В. Маскоўскай вуліцы 173.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата**
ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—5 лат., за паўгода—3 л. 50 с., асобны нумар — 70 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал.
Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. reķins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkaste № 1362.
Рэдактар К. Езавітаў і Рэдакцыйная Калегія па справах часопісу прыймаюць па аўторках ад 15 да 16 гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук на пішмашынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Аплачваць аўтарскія гонорары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

**№ 7 (24).** | **Рыга, кастрычнік-сьнежань 1933 году.** | **Год VIII.**

## Да гісторыі распаду Беларускае Народнае Рэспублікі.

У № 1 (18) і № 3 (20) нашага часопіса мы ўжо адзначылі працу **Усебеларускага Кангрэсу**, які скліканы быў 5 (18) сьнежня 1917 году і праз два тыдні працы, 18 (31) 1917 году абвесьціў Беларусь **Беларускай Народнай Рэспублікай**. Адзначалі мы і тое, як варожа спачатку ставіліся да ідэі беларускае дзяржаўнасьці некаторыя расейскія, польскія і жыдоўскія партыі на Беларусі і як потым, пад уплывамі лагоднай і ўмелай політыкі **Выканаўчага Камітэту** Усебеларускага Кангрэсу, гэтая варожасьць адпала і зьмянілася на шчырую лойяльнасьць і падтрымку, якія праз тры месяцы пасьля роспуску Усебеларускага Кангрэсу, 25 сакавіка 1918 году, далі магчымасьць абвесьціць ужо незалежнасьць Беларусі і стварыць беларускі прэдпарлямэнт — **Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.**

З моманту сканструіраваньня Рады БНР і ўваходу ў яе дэлегатаў ад усіх партый і ад усіх нацыянальнасьцяў, працаваўшых на Беларусі, палітычнае становішча Беларускае Народнае Рэспублікі і яе першага ўраду, **Народнага Сакратарыяту**, адразу настолькі ўмацавалася, што адзін горад за адным, павет за паветам, у асобах сваіх мястовых самаўрадаў, пачалі выносіць пастановы аб вызнаньні ўлады Народнага Сакратарыяту і аб далучэньні да акту 25 сакавіка*). Каб замацаваць гэтую сувязь Народны Сакратарыят быў папоўнены прадстаўнікамі ад жыдоў, вялікарусаў і палякаў, якія атрымалі асобных народных сакратароў па сваіх меншасьцёвых справах.

Бачучы, што дзяржаўны апарат Беларускай Народнай Рэспублікі, ня гледзячы на перашкоды з боку немцаў і абшарніцка-хрысьціўаўскага „Прадстаўніцтва", налажваецца, і зразумеўшы, што іхняя гульня прайграна, нарэшце і Беларускае Прадстаўніцтва, з Скірмунтам і Гадлеўскім, вызнала ўладу Народнага Сакратарыяту і дэлегавала сваіх прадстаўнікоў у Раду БНР.

---

*) У Раду Беларускай Народнай Рэспублікі не ўвайшлі і ўдзелу ў акце 25 сакавіка н е   п р ы й м а л і толькі дзьве б е л а р у с к і я партыі: партыя абшарнікаў, з Раманам Скірмунтам і княгіняй Магдаленай Радзівіл на чале, ды партыя беларускіх хрысьціўаў, з ксяндзом Гадлеўскім. Гэтыя дзьве групы заўсёды выступалі разам, а пасьля прыходу ў Менск немцаў стварылі сэпаратыўную арганізацыю, **Беларускае прадстаўніцтва**, і імкнуліся падарваць аўтарытэт Рады БНР перад немцамі ды захапіць у свае рукі ўладу на Беларусі.

З гэтага моманту дзяржаўнае будаўніцтва маладой Беларускай Рэспублікі магло, здавалася бы, усьцяж умацоўвацца і разьвівацца, бо каля Рады БНР былі аб'яднаны ўжо ўсе палітычныя групы і сілы краіны. Аднак, уваход у Раду БНР аджыўшае клясы абшарнікаў і аглядаўшыхся на іх хрысьціґаў ня толькі не дапамог працы Рады і не ўмацаваў яе аўтарытэту ў шырокіх масах беларускага сялянства і працоўных, але наадварот дужа адмоўна адбіваўся як на прадукцыйнасьці працы Рады, гэтак і на яе аўтарытэце.

Гэтае дзіўнае, на першы пагляд, зьявішча тлумачыцца дужа проста. — Абшарнікі зьявіліся ў Раду БНР зусім не дзеля таго, каб умацоўваць становішча маладой Беларускай Рэспублікі, а толькі за тым, каб адратаваць свае маёнткі ад перадачы сялянству. Спадзяваліся яны і на тое, што праз уваход у Раду БНР ім удасца захапіць у свае рукі ўладу на Беларусі, чаго не ўдалося ім дасягнуць праз сваё Прадстаўніцтва. Соцыялістычнае крыло Рады БНР дужа добра ўяўляла сабе ролю і пазыцыю, якую займе ў Радзе абшарніцкае Прадстаўніцтва і таму змагалася супроць прыйма гэтае групы ў Раду, але тутака ў якасьці „сватоў" і „прымірыцеляў" выступілі прадстаўнікі Віленскае Беларускае Рады, на чале з братамі Луцкевічамі, якія і дабіліся ўваходу ў Раду групы Прадстаўніцтва. Беларускае сялянства, чакаўшае хутчэйшае зямельнае рэформы і ўскладаўшае ўсе свае надзеі ў гэтай справе на Раду, — пасьля ўваходу ў Раду абшарніцкага Прадстаўніцтва, адразу занепакоілася, расчаравалася і зьняверылася, бо ведала, што абшарнікі ўсімі спосабамі будуць змагацца супроць гэтае рэформы.

Абшарніцкае „Прадстаўніцтва" адразу ўзялося за энэргійныя інтрыгі і правакацыю ў Радзе БНР. Мэтай гэтых інтрыг было: раскалоць існуючыя беларускія групіраваньні, прыцягнуць да сябе паасобныя, абаламучаныя рознымі абяцаньнямі, адзінкі і з іх дапамогай захапіць у свае рукі кіраваньне Радай. Каб як-колечы стварыць сабе большасьць у Радзе, гэтая група ахвотна падтрымоўвала ўсе выпадкі камандзіраваньня сяброў цантральных груп Рады па розных справах за-межы, а таксама і назначэньні ненавісных ім радных з соцыялістычных груп на разныя адказныя пасады, якія зьвязаны былі з ад'ездам з Менску. Сваіх сяброў і прыхільнікаў яны не выпускалі з Менску і чакалі моманту, каб стварылася хоць на адзінь дзень, хоць выпадковая большасьць на іх старане, каб паставіць пытаньне аб недаверы Народнаму Сакратарыяту, ськінуць яго і скласьці свой Урад. Праз некалькі месяцаў падрыхтоўкі ім удалося, як убачым ніжэй, стварыць гэткі момант і на кароткі час захапіць уладу ў свае рукі.

Аднак самым цяжкім ударам па Радзе БНР і па самой ідэі беларускае незалежнае дзяржаўнасьці была агідная справа з тэлеграмай ад імя Прэзыдыума Рады БНР і Прадстаўніцтва на імя кайзэра Вільгэльма. Справа гэтая стаяла так. — Літоўская Тарыба ў пачатку 1918 году, пад націскам акупацыйных нямецкіх уладаў, зьвярнулася да кайзэра Вільгэльма з мэмарандумам, у якім прапанавала ўзяць Літву ў склад Нямеччыны на аўтаномных началах. Вільгэльм з ахвотаю „згадзіўся" і нават прызначыў Літве каралём-князям нямецкага прынца Ураха, ды зрабіў нейкія грашовыя асыгнаваньні на падтрымку новастворанае Літоўскае дзяржавы. Гэты прыклад і „ўдача" ліцьвіноў асьляпілі і запалілі віленскіх бела-

русаў магчымасьцю выкарыстаць гэткі-жа шлях і для стварэньня беларускае дзяржавы. Зьявіўшыся, на чале з братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі ў Менск, і ўвайшоўшы тутака ў зносіны з Прадстаўніцтвам, віленская беларуская дэлегацыя пачала агітаваць, каб Рада БНР зьвярнулася да Вільгэльма з аналёгічнай тэлеграмай. Большасьць партый Рады БНР была супроць гэткае тэлеграмы, бо паміма ўсяго іншага, было прост не лёгічна толькі-што абвесьціўшы незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ад Расеі зараз-жа аддавацць сябе пад уладу нямецкага імпэрыялізму і манархіі. Аднак, Прэзыдыум Рады БНР і Прадстаўніцтва тэлеграму ўсё-ж-ткі паслалі, заручыўшыся згодай Цантральнага Камітэту партыі Беларускае Сацыялістычнае грамады.

Большасьць Рады БНР была страшэнна абурана гэтым крокам. З пратэстамі выйшлі з Рады прадстаўнікі расейскае меншасьці. Фракцыя Беларускае Сацыялістычнае грамады выказала недаверыя Цантральнаму Камітэту гэтае партыі, і ўсе раднікі сацыялісты выступілі з партыі. На мейсцу адзінай да таго часу беларускай сацыялістычнай партыі паўстала адразу тры новых: партыя беларускіх сацыялістаў-фэдэралістаў, партыя беларускіх сацыялдэмакратаў і партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Аўтарытэт Рады ў вачох жыхарства быў страшэнна падарваны. І хаця з тэлеграмы да Вільгэльма, у выніку ўсіх гэтых пратэстаў, нічога ня выйшла, аднак удар па Радзе БНР быў настолькі моцны, што яна ўжо ў працягу ўсяго 1918 году не змагла ад яго аправіцца.

Малыя памеры нашага часопісу не даюць магчымасьці больш падрабязна спыніцца на працы Рады БНР і Народнага Сакратарыяту. Адзначым толькі, што ў ліпеню месяцы лятуценьні Прадстаўніцтва нарэшце спо ўніліся. На адным са сходаў Рады ў правага крыла аказалася выпадковая большасьць. Яно выкарыстала гэтую большасьць і скінула Народны Сакратарыят Язэпа Варонкі ды стварыла новы Урад — **Кабінэт Міністраў** з Раманам Скірмунтам на чале. Аднак Я. Варонка ня здаў спраў Р. Скірмунту. Акупацыйныя нямецкія ўлады, да якіх зьвярнуўся за дапамогай Р. Скірмунт, трымалі ў гэтай справе нэйтралітэт. Некаторы час працавалі два ўрады. Але праз тыдзень у Менску сабралася зноў уся Рада. Разгледзіўшы справу, Рада загадала абодвым урадам скласьці свае паўнамоцтвы і ўпаўнаважыла С. Сераду і Я. Варонку скласьці новы Кабінэт Міністраў.

Скарыстаўшы ўнутраныя беларускія спрэчкі, нямецкія акупацыйныя ўлады пачынаюць умешвацца ў беларускія справы ў Менску, а войска на правінцыі і па вёсках абірае беларускае сялянства літаральна да ніткі. Бабы павінны здаваць нямецкім камэндантам: масла, яйкі, сыр, палатно; у гарадох немцы цягнуць з прыватных кватэр: мэблю, каберцы, тэлефоны, пішучыя машыны, музыкальныя іструмэнты і нават калпакі ад электрычных лямп, ды медную праводку. Усё гэта вывозіцца ў Нямеччыну. Беларускае жыхарства з абурэньнем наглядае гэты крадзеж і рабаваньне свае Бацькаўшчыны.

Найбольш гарачыя, энэргійныя і рэвалюцыйна настроеныя сябры Рады БНР пачынаюць рыхтаваць аружны адпор нямецкаму свавольству. З прадстаўнікоў партыі беларускіх сацыялістаў-фэдэралістаў і партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў ствараецца Паўстан-

чы Камітэт, які бярэ на сябе арганізацыю аружнага паўстаньня супроць немцаў у Менскім і Воршанскім райёне. Задача гэта палягчалася тым, што расейска-нямецкі фронт праходзіў праз сярэдзіну Беларусі і ў жыхарства было шмат зброі і набояў, пакінутых тутака адступіўшым расейскім войскам ды захаваных беларускім сялянствам па лясох. Камітэт шырока разгарнуў сваю працу і завербаваў шмат прыхільнікаў. Паўстаньне было назначана ў ноч з 22-га на 23-е кастрычніка. Аднак, па даносу здрадніка штабс-капітана Гайдука, які ўваходзіў у Камітэт, а разам з тым працаваў і ў нямецкай разведцы, 80 беларускіх афіцэраў, з К. Езавітавым начале, якія камандавалі асобнымі групамі, як у Менску, гэтак і ў правінцыі, — за некалькі гадзін да прызначанага тэрміну—былі адначасна арыштаваны і дастаўлены ў Менскую турму. Усім арыштаваным пагражаў вайскова-палявы суд і растрэл. Аднак рэвалюцыйная завіруха, выбухнуўшая ў Нямеччыне, выратавала іх з нямецкае турмы.

Двурушніцкая тактыка абшарніцкага Прадстаўніцтва, дэмаралізаваўшая працу Рады БНР, шэраг палітычных памылак (як ганебная тэлеграма да Вільгэльма), канфлікты з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, разбраеньне беларускіх вайсковых фармаваньняў, праведзенае немцамі, а таксама і матар'яльныя няхваткі — паставілі Урад БНР пад канец 1918 году ў надзвычайна цяжкі стан. Калі ў пачатку сьнежня 1918 году нямецкае акупацыйнае войска пакінула Менск і адышло на захад, а з усходу на горад пачала пасоўвацца савецкая армія, — Урад БНР ня змог утрымаць уладу ў сваіх руках і выехаў з Менску, спачатку—у Вільню, затым — у Горадню, а стуль за-межы, дзе павёў галоўным чынам інфармацыйна-дыплёматычную працу.

Савецкія ўлады, заняўшы 7-га сьнежня 1918 году Менск, накіравалі сюды спачатку Савет Народных Камісараў Заходняе Вобласьці, які заняўся тутака зьнішчэньнем беларускага адраджэнчага руху і ў першую чаргу абвесьціў „внѣ закона“ усіх актыўнейшых беларускіх дзеячоў і сяброў Рады БНР. Але потым, лічучыся з глыбокімі каранямі, якія за 1917 і 1918 год пусьціла ў беларускія масы ідэя беларускае дзяржаўнасьці, а таксама ўлічваючы тое агульнае незадаваленьне і абурэньне, якія выклікалі ў беларускага жыхарства паводзіны камісараў Обліскомзапа, што змагаліся з беларускім адраджэнчым рухам і яго дзеячамі, савецкія ўлады абвесьцілі з 1-га студзеня 1919 году незалежную **Беларускую Савецкую Соцыялістычную Рэспубліку**, якая і існуе зара' ужо 15 год.

Спробы выехаўшага за-межы Ураду БНР павярнуць сабе ўладу на Беларусі, робленыя ў працягу пяці год, пачынаючы з 1919-га і да 1924-га, не далі вынікаў. А тым часам Урад БССР (Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі) замацаваў сваё становішча ў Меншчыне і нават дабіўся ад Маскоўшчыны звароту Віцебшчыны і Магілеўшчыны, якія і былі далучаны да БССР на пачатку 1924 году. Гэткі паварот спраў, а таксама і амністыя, якая была абвешчана ў БССР для былых удзельнікаў Рады БНР, грунтоўна зьмянілі ўсю сытуацыю. Вось чаму эміграцыйны Урад БНР у канцы 1925 году дабрахвотна склаў свае паўнамоцтвы, а сябры яго ў 1926 годзе зьвярнуліся ў Менск для культурнай і навуковай працы. У Празе астаўся толькі Прэзыдыум Рады БНР у асобах: П. Крачэўскага (памёр у 1928 годзе), В. Захаркі і Д-ра Т. Грыба. **Кангрэсавец.**

## Вынікі этнографічнага дасьледваньня Себежчыны, Невельшчыны і Вяліжчыны.

Як вядома, Савецкая Беларусь, якая абвешчана была 1 студзеня 1919 году, спачатку мела тэрыторыю ўсяго з пяці паветаў Меншчыны і з жыхарствам у ліку каля 1.500.000 чалавек. У 1924 годзе, пад націскам беларускае грамадзкасьці Маскоўшчына павінна была зьвярнуць Беларусі нямаль усю Віцебшчыну (за выключэньнем паветаў: Себескага, Невельскага і Вяліскага), Магілёўшчыну і частку Смаленшчыны. Гэта агромная тэрыторыя з агульным лікам жыхарства ў 3.000.000 мільёны адразу зрабіла Беларусь дзяржавай з 4.500.000 жыхараў. У 1926-ым годзе да Савецкай Беларусі была далучана яшчэ частка Гомельшчыны з паўмільёнfamым жыхарствам. Гэткім чынам зара' Савецкая Беларусь (улічваючы натуральны прырост) налічвае ўжо больш 5.300.000 жыхарства.

Аднак цэлы шэраг беларускіх абшараў Усходняй Гомельшчыны, Браншчыны і Заходня-Паўднёвай Смаленшчыны ды Паўночнае Віцебшчыны ўсё яшчэ астаюцца ўключанымі ў так званую Заходнюю Вобласьць, якая дужа нагадвае беларусом стары „Западны Край“, як называлі Беларусь у часы царызму расейскія ўрадоўцы і шовіністы. Уваходзячыя ў Заходнюю Вобласьць беларускія вышэйпералічаныя абшары, на якіх жыве яшчэ 3.000.000 жыхараў, лічацца спрэчнымі паміж Масквой і Беларусьсю.

Каб выявіць нацыянальны склад жыхарства гэтых раёнаў, туды з ініцыятывы Інстытуту Беларускае Культуры, а потым і па загаду Беларускае Акадэміі Навук пасылаліся асобныя этнографічныя экспэдыцыі. Адна з гэтых экспэдыцый была спэцыяльна камандзіравана для дасьледваньня Себежчыны, Невельшчыны і Вяліжчыны. Аб вyніках гэтае экспэдыцыі праф. Сэрбаў сваячасна падаў у прэсу наступнае:

„У летку сёлетняга году ІНБ накіраваў этнаграфічную экспэдыцыю для вывучэньня паўночнай часткі Беларусі, у склад якой уваходзяць паветы былой Вітабскай губ. Себескі, Нэвельскі і Вяліскі. Маршрут экспэдыцыі быў вызначан так, каб прарэзаць гэтыя тры беларускія паветы цяперашняй Пскоўскай губ.

Экспэдыцыя накіравалася ад Нэвеля да Себежа на захад і ад Нэвеля да Вяліжа на ўсход. Па характару сваёй прыроды гэта краіна, як відаць, адносіцца да марэнавага лядніковага пэрыяду.

Тут марэнны характар адбіўся ў выглядзе прыгожых гор, бугроў, глыбокіх упадзін, цэлай сыстэмы марэнных вазёр. Па прыгожасьці відаў многія месцы Нэвельскага і Себескага паветаў ня ўступаюць Швэйцарыі. Каля насялёных пунктаў Фенева, Кіцкае, Уназовіч ля Себежу ёсьць такія высокія горы, што з іх раскрываецца кругавід на 40 вёрст.

У гэтых паветах ёсьць вялікія вазёры, як Далыскае, Себескае, Сяруцкае, яны займаюць ад 3-х да 6-ці тысяч дзесяцін.

У гэтай краіне да апошняга часу захаваліся старажытныя вадзяныя шляхі з волакамі з возера Ільмень праз Ловаць і Чудзкае праз раку Вялікую ў Заходнюю Дзьвіну, Дняпро і Бярозу.

Вазёры вельмі багаты рыбай, якая мае збыт ня толькі на рынках СССР, а нават частка рыбы вывозіцца на замежныя рынкі (ракі, карп, яршы і інш.).

Да 75 проц. усяго насельніцтва гэтых паветаў складаюць беларусы, 10 проц. складаюць вялікарасейцы, рэшта яўрэі і латышы. Беларускае насельніцтва з даўнейшых часоў займаецца адхожымі промысламі, амаль усё мужчынскае насяленьне адпраўляецца на пастаянную і сэзонную працу у Ноўгарад і Ленінград. Гэтыя заняткі накладаюць пэўны адбітак на увесь гаспадарчы, культурны і сямейны побыт тамтэйшага беларуса. Земляробства стала не асноўным заняткам, як у нас, а дапаможнай прафэсыяй. Вёска паступова губляе свой сельскі выгляд і сваю старасьветчыну. Сяляне самі не прадуць і ня ткуць, за выключэньнем рознага сукна. Хаты і само убраньне хат набывае гарадзкі характар.

Усё гэта, канечна, адбіваецца на мове беларускага жыхарства і на яго побыце. Усялякія абрадавыя песьні (купальныя, калядныя і інш. тут ужо амаль не стракаюцца. Вясельле і хрэсьбіны адбываюцца бяз жадных абрадаў, якімі яшчэ так багата наша беларуская вёска.

Аднак трэба зазначыць, што тып беларуса тут добра захаваўся і рэзка адрозьніваецца ад іншага насяленьня. У яго мове таксама шмат асаблівасьцей беларускае мовы: кароткае „ў“, звонкае „д“, ужываньне падвойных зыкаў і інш. Асаблівасьцямі тутэйшай беларускай гаворкі зьяўляецца „цоканьне“ (цай, заместа чай і інш.).

Асобнай групай мясцовага жыхарства зьяўляюцца так званыя „путныя“ і „панцырныя“ баяры, якія жывуць шырокай паласой ад усходу на захад ад Вяліжа да Себежа. Гэтая група жыхарства з 16-га стагодзьдзя выпаўняла пагранічную службу у Вялікім князьстве Беларуска-Літоўскім, але цяпер яно не адрозьніваецца ад рэшты насельніцтва.

У канцы праф. Сэрбаў зазначыў, што жыхарства гэтых паветаў імкнецца да злучэньня з БССР. Для гэтага ёсьць пэўны грунт, які утварыўся гістарычнымі умовамі сумеснага жыцьця з рэштай жыхарства БССР, а таксама і па эканамічных прычынах“. („Сав. Бел.“ № 197 ад 31. VIII. 1926 г.).

Ня гледзячы на зусім выразна выказанае (і пад час навуковых экспэдыцый, і ў асобных пастановах розных мяйсцовых народаў) жаданьне буларускага жыхарства Себежчыны, Вяліжчыны і Невельшчыны аб далучэньні іх да БССР, раёны гэтыя да сёнешняга дня ўсё яшчэ не перададзены Беларускай Рэспубліцы, а павялічваюць сабой і без таго вялікія абшары Маскоўшчыны.

Не задаволены да гэтага часу таксама і жаданьні беларускага жыхарства беларускіх паветаў Смаленшчыны і Браншчыны аб далучэньні іх да Беларусі.

Гэткае ігнараваньне волі беларускага жыхарства і нестрыманьне абяцанак, дадзеных Радаваю уладай беларускай людначьці аб паступовым пашырэньні БССР да ўсходніх этнографічных межаў беларускага народу, выклікае ў беларускім грамадзтве БССР, а таксама і па-заможамі яе, агульнае незадаваленьне і расчараваньне, якое пры стварыўшыхся зара‘ міжнарадовых абставінах можа даць глебу для розных нечаканых здарэньняў. **К. Рыскі.**

## Бацькі і дзеці.

(Думкі з поваду аднаго рэфэрату).

Тэма вечна старая і вечна новая. Старое і маладое пакаленьні, як прыбоі хваляў зьмяняюць адно аднаго ў жыцьці. Кожнае жыве сваімі думкамі і настроямі, кожнае кладзе сваю цагліну ў агульна-чалавечы будынак, і заўсёды паміж імі ёсьць розніца і разлад. Назіраем гэта ня толькі ў грамадзтве, але і нямаль у кождай сямейцы. Часта бацька не разумее свайго сына, а маці сваіх дачок, і наадварот. Колькі з-за гэтага разыгрываецца непаразуменьняў, а нават і драм. Тое-ж і ў грамадзкім жыцьцю: бацькі і дзеці.

Гэты матыў пачуўся неяк у двух дакладах, якія зрабілі ў гэтым годзе на адным з сходаў беларускай моладзі гр. гр. Францішак і Язэп Клагішы, інфармуючы аб беларускім студэнцтве ў Празе і ў Вільне. У аднаго, і ў другога ў канцы дакладаў яскрава падкрэсьлена была думка, што зараз ужо шмат маецца адукаванай беларускай моладзі, захопленай ідэяй беларускага адраджэньня і жаданьнем працаваць на карысьць свайго народу але... старэйшае пакаленьне зьяўляецца тут памехай для моладзі. Старэйшае грамадзтва ў Вільне і ў Празе, па словах дакладчыкаў, часткай „абмя-

шчанілася", абрасло жыцьцёвымі благамі, працуе толькі дзеля сваей карысьці, стараючыся захапіць больш аплачываемыя пасады і ня здольна ні на якую самаахвярнасьць дзеля справы; другая частка старэйшага пакаленьня не разумее добра ідэалаў малодшага пакаленьня, яно вядзе сваю працу старымі мэтодамі, ідзе сваім асабістым шляхам, падчас шкодным для агульнай справы; і толькі трэцяя невялічкая частка старэйшага грамадзтва працуе і ідзе ў унісон з моладзьдзю.

Пытаньне, паднятае рэфэрантамі настолькі было цікавае, важнае і абшырнае, што выклікала ажыўлены абмен думак паміж прысутнымі. За позьнім часам далейшае дэбатаваньне па ім адклалі на чарговы сход, тым больш што самі сабой напрашваліся параўнаньні з нашым беларускім грамадзкім жыцьцём у Латвіі.

Тутака можна пакуль-што адзначыць толькі тое, што закранутае пытаньне павінна прымусіць і наша, як старэйшае, так і малодшае, грамадзтва ў Латвіі глыбей прааналізаваць свае перакананьні і сваю працу. Падзел-жа на „бацёк" і „дзяцей" для беларускага руху ў Латвіі, як адзначыў К. Б. Езавітаў у часе абмену думак, зьяўляецца шкодным. І гэта зусім правідлова, асабліва ўзяўшы пад увагу маленькі маштаб нашае беларускае справы ў Латвіі і наш невялічкі калектыў інтэлігэнтных сьвядомых сіл. Павінен быць сынтэз працы. Павінны адны дапаўняць другіх: у старэйшых ёсьць практыка, больш цьвярозы падыход да справы, а ў моладзі ёсьць жывая энэргія, запал.

Ствараць два лагеры, грунтуючыся толькі на ўзросьце,—памылкова. Крытэры трэба ўзяць іншы, бо „мяшчане" па духу ў нас ёсьць ня толькі сярод старых, але і сярод маладых. Той мешчанін сярод нас, у каго асабістыя інтэрасы прэваліруюць над грамадзкімі, у каго мала ідэёвасьці і самаахвярнасьці, у каго няма запалу, няма яскравай думкі, хто замыкаецца ў сваю ракавіну. З гэткага пункту гледжаньня, мяшчан па духу, а не па ўзросту ў нас магчыма больш, чым адданых справе працаўнікоў. І з гэтым трэба змагацца.

Зусім згодзен з дакладчыкамі, што патрэбны для нашага руху маладыя сілы, маладая энэргія і сьвежая ініцыятыва, якія павінны, на аснове агульнага закону жыцьця, замяніць старэйшае пакаленьне. Ад імя-ж старэйшага пакаленьня беларускіх працаўнікоў Латвіі магу сказаць, што яно задаволена тым, што за 10 год сваей працы здолела выхаваць хоць невялічкія кадры сьвядомае моладзі, якая ўжо можа стаць на працу по-плеч са старэйшым пакаленьнем. І задаваленьне наша будзе яшчэ вялікшым, калі наша моладзь высуне шэрэг новых, сьмелых і энэргійных павадыроў, якія возьмуць беларускі рух у Латвіі ў свае рукі і павядуць яго далей. Тыя з ідэёвых працаўнікоў старэйшага пакаленьня, для каторых важны не пэрсанальны дабрабыт, а лёс беларускае справы, ахвотна падтрымаюць моладзь ва ўсіх яе карысных пачынаньнях. **С. Сахараў.**

**Кожды беларус, які хоча падтрымаць Беларускі Адраджэнчы Рух і дапамагчы беларускаму народу дабіцца лепшае долі — павінен: 1) уваходзіць у беларускія нацыянальныя арганізацыі; 2) купляць, чытаць і пашыраць беларускія кніжкі, газэты і часопісы; 3) адведываць беларускія лекцыі, канцэрты і тэатральныя пастаноўкі!**

## Дзьве цікавых Пэдагогічных выстаукі.

У зьвязку з 26-й дэлегацкай Конфэрэнцыяй Уселатвійскага Вучыцельскага Саюзу, якая адбудзецца 3 студзеня 1934 году ў Рызе ў памешканьні 4-е гімназіі па Гайсінскай вуліцы 3, рыская вучыцельства ладзіць у памешканьні тэй-жа гімназіі дзьве цікавыя Пэдагогічныя выстаўкі.

Першая выстаўка прысьвячаецца ручной працы вучняў з нормалямі (кавалачкамі дрэва і гатовымі рэечкамі), якая зара‘ заваёўвае аснаўную школу ў Латвіі і выціскае з яе старыя мэтоды ручной працы, якія зьбіваліся на прафэсыйнае натасківаньне вучняў у розных сталярных і сьлясарных, якія зара‘ практычна мала патрэбны, бо заместа чалавека шмат „чорнай“ працы выконвае зара‘ машына.

Другая выстаўка зроблена будзе на тэму „Як дабіцца прыгожага пісаньня“. На гэтай выстаўцы будзе даваць паясьненьні каліграф Крыстбэрг.

Адначасна з выстаўкай, 4 студзеня 1934 году, у памешканьні 3-е гімназіі на Валдэмараўскай 2, адбудзецца Дзень рэфэратаў, арганізуемы Пэдагогічным Бюро. Тутака з дакладамі выступяць: дацэнт Я. Каўліньш, проф. Г. Балодзіс, вуч. В. Граўдыньш ды інш.

Вучыцялём беларускіх школ дужа радзімо адведаць гэтыя дзьве выстаўкі, а таксама рэфэраты Пэдагогічнага Бюро і паседжаньні 26-е Дэлегацкае Конфэрэнцыі Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу (на сходах Конфэрэнцыі могуць быць прысутны ня толькі дэлегаты, але кожды сябра нашага Хаўрусу, зразумела на правах госьця, без пастанаўляючага голасу).

**Цантральнае Праўленьне Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі.**

## Беларуская меншасьць у Літве усё яшчэ не атрымала ніводнай беларускай школы.

У папярэднім нумары нашага часопісу мы ўжо адзначалі, што беларускае жыхарства Еўеўскага раёну дамагаецца адчыненьня ў Еўе беларускага школьнага камплекту пры існуючай літоўскай школе. Зазначалася намі і тое, што, ня гледзячы на розныя прыгожыя словы аб беларуска-літоўскім братэрстве, беларусы ніяк ня могуць дабіцца задаваленьня сваіх культурна-асьветных патрэб: школа ў Еўі так да гэтага часу і не адчынена, Беларускі Дзіцячы Сад у Коўне ніякае матар‘яльнае падтрымкі не атрымаў і стаіць пад пагрозай зачыненьня. Тое-ж самае можна сказаць і аб Беларускім Народным Унівэрсытэце; няма чаго ўжо і казаць, як цяжка працаваць Беларускаму Народнаму Тэатру і Беларускаму Хору, якія павінны былі і абарудаваць сталую тэатральную сцэну ў памешканьні клюба „Беларуская Хата“ і паклапаціцца аб гардэробе, бутафорыі і інш.*).

Зара‘ мы атрымалі паведамленьне, што Міністэрства Асьветы Літвы, у адказ на просьбу аб адчыненьні ў Еўе беларускага камплекту пры Еўеўскай літоўскай пачатковай школе, паслала ў Еўе прадстаўніка Міністэрства, каб той на мейсцу абсьледаваў справу. Гэты прадстаўнік знайшоў дужа цікавы спосаб, каб адмовіць беларусам

*) Ня можна не адзначыць тае самаахвярнае працы і матар‘яльнае падтрымкі, якія пакладзены ў гэтую працу гр. гр. С. Якавюком, А. Матачом і гр намі Плескачэўскімі, якія на сваіх плячох вытрымліваюць галоўны цяжар працы.

у адчыненьні беларускае школы. — Ен запатрабаваў ад усіх бацькоў, каб прынясьлі іхнія пашпарты і глядзеў па гэтых пашпартах, як тамака запісаны бацька вучня, і на моцы гэтага азнаямленьня з пашпартамі вырашаў лёс вучняў. Калі хто, па недагляду свайму, або з якое-колечы фантазыі пісара, што выдаваў некалькі год назад пашпарты, запісаны быў не беларусам, а „расейцам“, або „палякам“, ці як інакш, дык дзеці ягоныя адразу выкрэсьліваліся са сьпісу, хацяж-бы бацька даводзіў, што ён лічыць сябе беларусам і ў пашпарце запіс зроблены памылкова. Былі выкрэсьлены са сьпісу і тыя вучні з бліжэйшых ваколіц, каля якіх ёсьць блізка вёскі з літоўскімі раёнными школамі, бо гэтыя вучні „павінны хадзіць у сваю раённую школу“. Такім чынам, пасьля гэткага рашучага і „арыгінальнага“ абсьледваньня, асталося ўсяго 12 беларускіх вучняў, пад якіх ні з якога боку падкапацца ня было магчымасьці. Але тут ужо проста было зазначана, што асталося іх замала, каб дзеля іх турбавацца і адчыняць яшчэ нейкі камплект.

Аб тым, **кім** сябе лічуць самі бацькі-беларусы, аб тым, што яны маюць права дамагацца для сваіх дзяцей беларускае школы, хаця-ж бы ў пашпарце і была памылкова інакш азначана іхняя нацыянальнасьць, — грамадзянін рэвізор і слухаць не пажадаў. Бацькі страшэнна расчараваны гэткім падыходам і ня ведаюць, што ім рабіць далей.

Але беларускае грамадзва ў Літве ня думае адступаць перад гэтымі новымі перашкодамі і будзе дамагацца, каб запісы ў пашпартах аб нацыянальнасьці былі выпраўлены. Магчыма, што прыдзецца зьвяртацца і ў Міністэрства Унутраных Спраў, і ў судовыя ўстановы, і ў Раду Міністраў, але гэтыя чыноўніцкія выкрунтасы і прыдзіркі трэба перамагчы, бо інакш беларусы ніколі ня змогуць атрымаць сваіх школ у сучаснай Літве.

Са свайго боку мы мусімо зазначыць, што беларускае грамадзтва ў Віленшчыне і Горадзеншчыне ды і наагул ва ўсіх краінах, дзе жывуць беларусы, з недаўменьнем пільна прыглядаецца да стварыўшайся зара' у Літве сытуацыі, і на моцы гэтых наглядaньняў павінна будзе зрабіць шэраг дужа важных вывадаў, на якіх будуць асноўвацца далейшыя літоўска-беларускія адносіны.

Мусімо перасьцерагчы тых літоўскіх палітыкаў, якія думаюць, што заместа грунтоўнага задаваленьня патрэб беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літвы, яны змогуць і далей заваёўваць сымпатыі беларускага грамадства шляхам дробных падарункаў паасобным беларускім дзеячом, як разсылка ардэноў, ці прысуджваньне зямлі, або пасады. Гэтыя літоўскія палітыкі глыбока памыляюцца: Беларускае грамадства, прыглядаючыся да бязплодных высілкаў беларускае меншасьці атрымаць сваю школу ў Літве, пачынае з трывогай думаць аб тым **што** можа здарыцца і **як** могуць павясьці сябе ў адносінах да беларусаў літоўскія ўлады, калі-б ім давялося атрымаць Вільню? Ці ня будуць і беларусы Віленшчыны пастаўлены ў такія-ж варункі, як беларусы ў Еўе? У чым фактычна сэнс і практычнае выяўленьне беларуска-літоўскага супрацаўніцтва?

Гэтыя трывожныя пытаньні паўстаюць з тым большай сілай, што ў сучаснай Літве абсолютна нічога ня робіцца ня толькі для беларускае меншасьці ў Літве, але і для Заходняе Беларусі, на якую Літва прэтэндуе. Ці вядзецца падрыхтоўка кад-

раў вучыцялёў для будучых беларускіх школ Віленшчыны і Горадзеншчыны? — Не! Ці друкуюцца падручнікі і бібліатэчкі для гэтых школ? — Не! Ці створаны які-колечы апарат пры Міністэрстве Асьветы, які цікавіўся-б справамі беларускае асьветы? — Не! Ці падтрымоўваюцца асьветныя пачынаньні самае беларускае меншасьці ў Літве? — Не!

Усё гэта наводзіць беларускае грамадзтва на развагі і зможа прывесьці да поўнага перагляду традыцыйнага погляду на беларуска-літоўскае сяброўства. **Адраджэнец.**

## Беларускія школы у Латвіі у 1933-34 навуч. годзе.

Беларускія школы ў Латвіі ў бягучым 1933-34 навучальным годзе ня могуць пахваліцца ані сваей колькасьцю, якая не адпавядае запраўдным патрэбам беларускае меншасьці, што страшэнна адстала ў сэнсе культурна-асьветным ад іншых нацыянальнасьцяў Латвіі, ані сваім матар'яльным станам, бо з 1925 году, пасьля вядомага Беларускага Працэсу і пасьля зробленага пад час гэтага працэсу Уселатвійскага перапісу, асыгнаваньні на беларускія асьветныя патрэбы ў Латвіі зьменшаны на палову, а цэлы шэраг беларускіх школ штучна перароблены на латыскія. У той час, калі ў 1921-22 навучальным годзе беларусы мелі 50 аснаўных школ, зара' іх налічваецца толькі 24; і гэта ня гледзячы на тое, што за апошнія гады адчыніўся шэраг новых беларускіх школ (пераважна ў Рызе).

Агульны стан справы беларускіх школ у Латвіі можна характарызаваць гэткім чынам:

1) тыя школы, што знаходзяцца на ўтрыманьні латгальскіх самаўрадаў і падпарадкаваны Беларускаму Аддзелу пры Міністэрству Асьветы ды павятовым інспэктарам, — усьцяж зьмяншаюцца ў сваей лічае ды паступова, рознымі комбінацыямі, перарабляюцца на школы латыскія;

2) тыя беларускія школы, якія адчынены былі з ініцыятывы беларускага грамадзтва, ў якасьці прыватных беларускіх школ, паступова ўмацоўваюцца і, перажыўшы два-тры гады, дужа цяжкіх з боку матар'яльнага, потым атрымоўваюць вызнаньне і падтрымку з боку мястовых самаўрадаў, а часта-густа самаўрады бяруць нават гэтыя школы на поўнае сваё ўтрыманьне;

3) як правіла — добра працуюць тыя школы, дзе Пэдагогічныя Рады і Школьныя Рады працуюць у цесным кантакце і апякуюцца незаможнымі вучнямі, стварыўшы для набываньня падручнікаў і іншых навучальных дапамог адпаведныя фонды.

Гэта гаворыць аб тым, што беларускае грамадзтва, калі яно хоча ўмацаваць стан сваіх школ у Латвіі, павінна каля кождае школы згрупаваць грамаду, ці закласьці асобнае Т-ва, якое дапамагала-б працы і разьвіцьцю данае школы. Пры шэрагу нямецкіх, жыдоўскіх і расейскіх школ існуюць асобныя Т-вы дапамогі бяднейшым вучням гэтых школ, а таксама Т-вы былых вучняў гэтых школ, якія апякуюцца сваей школай. Пры нашых беларускіх школах гэтых арганізацый яшчэ няма, а ўжо даўно час аб гэтым падумаць. Ініцыятыва ў гэтай справе павінна ісьці ад бацькоў і настаўнікаў школы.

Ніжэй мы зьмяшчаемо сьпіс беларускіх навучальных установў у Латвіі з кароткімі весткамі аб кождай з іх.

**1. Дзяржаўныя 2-х гадовыя Беларускія Вучыцельскія Курсы** (Rīgā, Šlokas iela 10). закладзены былі 1 сьнежня 1921 году ў Дзьвінску, а з восені 1923 году перанесены ў Рыгу. Зара' на курсы прыймаюцца толькі тыя, хто скончыў поўны курс беларускіх гімназій у Латвіі Сучасны склад пэдагогаў гэткі: П. М. Жэрдзі (кіраўнік), Ул. В. Пігулеўскі, А. З. Радзько, С. Л. Сіцько, С. П. Сахараў, Я. Ф. Кастылюк, М. І. Дзямідаў, П. Міранoвіч, Т. Шміт, К. Арэ, А. Озолінш, М. Патмалнэкс, М. Паўлова і М. Грыўскі.

**2. Дзяржаўная Беларуская Гімназія ў Дзьвінску** (Daugavpiis, Varšavas ielā 16). Закладзена ў 1922 годзе. Мае інтэрнат для вясковых дзяўчат і хлапцоў, тры майстэрні — сьлясарна-механічную, сталярную і кравецка-ткацкую ды фэрму для сельска-гаспадарчае практыкі вучняў. Пэдагогічны склад: Я. Чаман (дырэктар), А. П. Якубецкі, Ул. Н. Раткін, Ул. Відаўскі, Г. Юрэвіч, С. Трубіцын, Я. Кайлевіч, І. Карнавухі Я. Катоўскі, З. Фэльдман, О. Калейс, В. Краўзэ, А. Грундульс, А. Паўлюкевіч і П. Капылоў.

**3. Рыская Прыватная Вячэрняя Гімназія Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі** (Rīgā, L. Maskavas ielā 173). Закладзена Т-вам Беларускіх вучыцялёў у 1929 годзе і разьлічана галоўным чынам на тую працоўную беларускую моладзь, якая з-за матар'яльных недахопаў сваей сямейкі змушана ўдзень працаваць, а ўвечары карыстае вольны час на здабываньне далейшае асьветы. Гімназія мела ў 1933 годзе свой першы выпуск, які на іспытах паказаў добрыя веды. Пэдагогічны склад: А. З. Радзько (дырэктар), К. Б. Езавітаў, С. Л. Сіцько, Я. Ф. Кастылюк, Я. М. Клагіш, Ф. А. Клагіш, К. Д. Мяжэцкі, П. Т. Міраковіч, В. Б. Доўгая, Ю. Брач, А. Шліпс, Н. Г. Швангерадзе, А. Озолінш, Г. Д. Богояўленскі, М. Ф. Грыўскі і Л—нт Рудзіт.

**4. І-я Рыская мястовая беларуская аснаўная 6-клясов. школа** (Rīgā, L. Maskavas ielā 173). Закладзена ў 1923 годзе. У 1933 годзе споўнілася 10 год яе існаваньня, з поваду чаго 30 сьнежня 1933 году ладзіцца юбілейны акт. Пэдагогічны склад: С. Л. Сіцько (кіраўнік), А. З. Радзько, К. Б. Езавітаў, М. Г. Краўчанка, В. Гайліт, Л. А. Тэтар, Я. Ф. Камаржынскі, Ю. Даль, Я. Я. Каяла, Н. Крэйц, В. Сімсон А. Альшэўскі, М. Македонскі і Т. Мікула.

**5. 2-я Рыская мястовая беларуская аснаўная 4-кл. школа** (Rīgā, Sarkandaugavā, Simaņa ielā 14-16). Закладзена ў 1925 годзе як прыватная школа, якую з 1926 году горад Рыга ўзяў на поўнае ўтрыманьне. Пэдагогічны склад: Г. С. Плыгаўка, (кіраўнік), Г. Ул. Нікіфароўская, Я. М. Кудраўцаў, Б. Д. Брэдэрман, Н. М. Юзэфовіч, Б. Крэйц-Юр'еўская, П. Міраковіч, П. Озолінь, М. Македонскі і Т. Мікула.

**6. Рыская прыватная беларуская 6-кл. аснаўная школа Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі** (Rīgā, Tornakalnā, Brīvzemnieku ielā 22). Школа была закладзена з вялікімі высілкамі Т-вам Беларускіх вучыцялёў. Захады аб дазволе адчыніць у Торэнзбэргу прыватную беларускую школу былі распачаты яшчэў 1928 годзе, калі было ўжо нават зьнята адпаведнае памешканьне, аднак толькі 1 жніўня 1930 году, рэзалюцыяй за № 3280, пасьля некалькіх паўторных зваротаў, Міністэрства Асьветы зацьвердзіла, нарэшці статут гэтае школы. У 1932 годзе школа атрымала першую дапамогу ад г. Рыгі ў суме 4000 латаў, а зара' вядуцца перагаворы аб перадачы гэтае школы на поўнае ўтрыманьне гораду. Пэдагогічны склад: М. І. Дзямідаў (кіраўнік), Л. Булаўская, А. Б. Рытаў, К. Казак-казакевіч, В. Б. Доўгая, П. Калінін і М. Грыўскі.

**7. Рыская мястовая беларуская вячэрняя аснаўная 6-кл. школа для дарослых** (Rīgā, Sarkandaugavā, Simaņa ielā 14-16). Закладзена была

Т-вам Беларускіх вучыцялёў у Латвіі ў якасьці прыватнае школы, каб дапамагчы няпісьменным і мала адукаваным беларускім рабочым Чырвонай Дзьвіны і Мюльграбену атрымаць асьвету за курс аснаўной школы. Статут зацьверджаны быў 12 лютага 1927 году. Школа дужа патрэбна была беларускім працоўным, і 1930 годзе была цалком узята на ўтрыманьне г. Рыгі. Шмат хто з працоўнае беларускае моладзі, скончыўшы гэтую школу, працягвае зара, сваю адукацыю ў Беларускай гімназіі і на электрычна-тэхнічным аддзеле Дадатковае школы. Пэдагогічны склад школы: Я. Ф. Кастылюк (кіраўнік), Ул. Гусарэвіч, С. Гусарэвіч, М. І. Дзямідаў, М. Калінін, П. Міракавіч, М. Слосман і Я. М. Кудраўцаў.

**8. Рыская мястовая беларуская дадатковая вячэрняя школа для дарослых з электро-тэхнічным аддзелам** (Rīgā, Sarkandaugavā, Simaņa ielā 14-16). Закладзена была ў 1930—31 нав. годзе, спачатку як дадатковыя электро-тэхнічныя клясы пры Вячэрняй школе для дарослых, каб даць магчымасьць скончыўшым гэтую школу атрымаць прафэсыйную асьвету і гэтым павялічыць сваю прафэсыйную кваліфікацыю, а затым, з 1931 году, пастановай Рыскае Школьнае Управы, ператворана ў асобную Дадатковую школу з двухгадовым курсам навучаньня і ўзята на ўтрыманьне гораду. Пасьля Беларускіх Дзяржаўных вучыцельскіх курсаў, якія падрыхтоўваюць беларускіх вучыцялёў, Рыская Дадатковая школа зьяўляецца адзінай беларускай прафэсыйнай школай у Латвіі. Пэдагогічны склад: Я. Ф. Кастылюк (кіраўнік), М. Я. Дзямідаў, Ул. Гусарэвіч, Г. С. Плыгаўка, М. Калінін, Ул. Сакалоў і Ян Кудраўцаў.

**9. Беларускі Дзіцячы Сад у Рызе Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі** (Rīgā, Sarkandaugavā, Simaņa ielā 7-9, dz. 7. Адчынены ў 1933 годзе Т-вам Беларускіх вучыцялёў, каб даць догляд беларускім дзецям з працоўных сямеяк, бацькі якіх уходзячы на працу, пакідаюць на ўвесь дзень малых дзяцей без дагляду, або змушаюць даглядаць іх старэйшых дзяцей, якія як нянькі такім чынам ня маюць магчымасьці адведываць школу. Кіраўніцай Саду прызначана Эмілія Казак-Казакевіч.

**10. Дзьвінская мястовая беларуская аснаўная 6-кл. школа** (Daugavpils, Kaunas ielā 98). Закладзена была ў 1929 годзе, спачатку ў якасьці наўзорнае беларускае аснаўное школы пры Беларускіх Дзяржаўных Вучыцельскіх курсах, а потым перанята была на ўтрыманьне Дзьвінскае Мястовае Управы. Пэдагогічны склад: З. Саўкант-Карнавухава (кіраўніца), А. Барткевіч, С. Мацiеўскі, К. Аляксандровіч, М. Фёдарава, М. Касьпяровіч, К. Барткевіч, Г. Цітава, К. Браман, Я. Гайлевіч, С. Трубіцын, С. Верабьёў.

**11. Беларускі Дзідзячы Сад у Дзьвінску Т-ва „Беларуская Хата“** (Daugavpilī, Valmeras ielā 18). Адчынены ў 1929 годзе для абслугоўваньня дзяцей беларускае працоўнае беднаты на Новым Страеньні, якія ня маюць належнага дагляду ў хаце. Кіраўнік дзіцячага саду—Павал Пырсікаў.

**12. Гараўская прыватная беларуская 6-кл. аснаўная школа Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі** (Daugavpils apr. P. n. Baltini). Закладзена ў вёсцы Гаравыя Скайсьценскае воласьці, Дзьвінскага павету па захадах бацькоў гэтае вёскі, якія яшчэ ў 1928 годзе зьвярнуліся з калектыўным лістом-просьбай да Т-ва Беларускіх вучыцялёў і далучылі сьпіс на 38 дзяцей. Т-ва зараз-жа зьвярнулася да Міністэрства Асьветы з просьбай аб зацьверджаньні статуту школы, аднак толькі ўлетку 1929 году статут быў, нарэшці, зацьверджаны і звосені школа прыступіла да працы. Зара кіруе школай вуч. Мяч. Юркевіч.

**13. Кокінская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Daugavpils apr. P. n. Baltini). Закладзена ў 1921 годзе ў вёсцы Кокіны Ізабелінскай воласьці, утрымоўваецца Дзьвінскаю Павятоваю Школьнаю Управаю. Кіруе школай вуч. Вера Хлебнікава.

**14. Майшэльская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, P. n. Joniny). Закладзена ў 1921 годзе, утрымоўваецца Дзьвінскаю Павятоваю Школьнаю Управай. Кіраўніца — Клара Багінская.

**15. Плейкаўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, P. n. Joniny). Закладзена ў 1921 годзе, утрымоўваецца Дзьвінскаю Павятоваю Школьн. Управаю. Кіраўніца—Ганна Булаўская-Страмевіц.

**16. Круманаўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, P. n. Pustiņa). Закладзена і ўтрымоўваецца Дзьвінск. Павят. Школьн. Управай з 1927 году. Кіраўнік—Язэп Клагіш.

**17. Прыдруйская беларуская 6-кл. аснаўная школа** (Indrā, Piedrujas pagastā). Існуе ад 1920 году пры воласьці ў Белым, утрымоўваецца Дзьвінскаю Павят. Школьн. Управаю. Зьяўляецца адзінаю беларускаю 6-клясоваю школаю ў прымежным пасу, а таму мае інтарнат для вучняў старэйшых клясаў, якія паступаюць у 5-тую клясу гэтае школы, скончыўшы 4-клясовыя ваколічныя беларускія школы. Інтарнат утрымоўваецца з грамадзкіх беларускіх коштаў, з невялічкай дапамогай ад Беларускага Аддзелу. Пэдагогічны склад: Адвард Вайвадзіш (кіраўнік), Вільгэльм Міраловіч і Эльза Міраловіч.

**18. Зялёншчынская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā). Закладзена і ўтрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Шк. Управаю ад 1921 году. Кіраўніца—Барбара Гаўпштэйн.

**19. Лупандаўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, Piedrujas pagastā). Закладзена і ўтрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Шк. Управаю ад 1921 году. Кіраўнік—Станіслаў Красьневіч.

**20. Келаўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā). Закладзена ў 1924 годзе, утрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Школьн. Управаю. Кіраўніца—Антаніна Махноўская.

**21. Зарэцкая беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, Piedrujas pag.). Закладзена і ўтрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Школьн. Управаю ад 1921 году. Кіраўніца—Люцыя Александровіч, вучыцель Віктар Дзяргач.

**22. Талоеўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indra, Piedrujas pag.). Закладзена і ўтрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Школьн. Управай ад 1921 году. Кіраўніца—Ганна Пашкевіч-Лепінь.

**23. Кузьмінская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, Piedrujas pag.). Закладзена ў 1923 годзе, утрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Шк. Управаю. Кіраўнік — Аўгустын Дварэцкі, вучыцелька—Марта Казлоўская-Розэнбэрг.

**24. Савейкаўская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Indrā, Piedrujas pag.). Закладзена ў 1924 годзе, утрымоўваецца Дзьвінскаю Павят. Шк. Управаю. Кіраўнік—Алесь Махноўскі.

**25. Дудэльская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Agloņ, Auļejas pagastā). Закладзена ў 1921 годзе ў былой Ужвалдскай воласьці, утрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Шк. Управаю. Кіраўніца—Вольга Мадзалеўская.

**26. Ляўзінская беларуская 4-кл. аснаўная школа** (Zilupē, Pasiņes pagastā). Закладзена ў 1924 годзе, утрымоўваецца Люцынскай Павятовай

Школьнай УпраЎй. Адзіная беларуская школа ў Люцыншчыне з былых тутака 30 беларускіх школ, якія, пад націскам латгальскіх шовіністаў, схаўрусаваўшыхся з расейскімі чорнасоценцамі, былі пад час і пасьля Беларускага Працэсу ператвораны ў латыскія, латгальскія і расейскія школы. Кіраўніца Люцынскай школы—Кацярына Зэйгліш.

**27. Мала-Індрыцкі беларускі камплект пры 4-кл. школе** (Skaistā). Закладзены з 1925 году, утрымоўваецца Дзьвінскаю Пав. Школьн. Управай. Вучыцелька—Юзэфа Васілеўская.

Трэба спадзявацца, што далейшых стратаў у лічбе беларускіх школ у Латвіі ўжо ня будзе. Грамадзкая ініцыятыва павінна ўмацаваць існуючыя культурныя пляцоўкі і пакласьці новыя. **К. Езавітаў.**

## Лістападаўскае.

Эх, замучыла сёньня мяне
Гэта шэрае, нізкае неба!
Я імкнуся к блакітнай вясьне,
А на вуліцах просяць ўсё хлеба...
Я ня ведаю, хто ты, жабрак!
Я цяпер ўжо нікому ня веру —
Мне здаецца ты пойдзеш у кабак,
Ці чужую зрабуеш кватэру.
Чаго ходзіш за мной, стары сум,
Не даеш расьпяяцца мне звонка?
Ты-ж ня брат мне, ня сват і ня кум,
І табе не сястра я, ня жонка!
І чаго так кахаюць мяне
Гэты чорныя думы бяз меры?
Я імкнуся к блакітнай вясьне,
Да людзей-жа ня маю больш веры!

**Е. Раманейка.**

Коўна.

## Покліч да працы.

Жыцьцё кіпіць і праца ў вочы
На нас глядзіць і нас завець —
Прачхнісь, каб сьцінуць цемру ночы —
Сякерай, молатам грымець!
Хай мазальмі успухнуць рукі,
Цурком хай з твару льецца пот, —
Працуй! — Мазоль пазбавіць мукі,
Наперад зрушыць наш народ!
Хай гром грыміць над галавою, —
Змагайся! — Хмары перайдуць,
Усё зьнішчыць праца й сіла волі,
Навалы чорныя мінуць!
Паўстань з прымусамі змагацца,
Цяжар каб сьцінуць зьдзекаў злых!
Прачхніся, брат! — Хутчэй да працы,
Аддай ўсе сілы для другіх!

**В. Лепельчанка.**

## Беларусі.

Для цябе, Беларусь, б'ецца сэрца мае,
Для цябе цячэць кроў ў маіх жылах;
За цябе я гатоў ўсё на сьвеце аддаць
За зябе я пайду хоць ў магілу!

Куды хочаш пайду — праз вагонь, праз ваду,
Праз змаганьне, праз кулі і зьдзекі.
Не хачу, каб ты йшла на чужым паваду —
Хачу вырваць з чужацкай апекі!

**Алесь Намавір.**

Рыга.

## Пры моры.

— Глянь, — сяньня мора сіней ад ночы! —
Ты сказала натхнёна мне.
Я глядзеў у блакіт тваіх вочак,
Ў вочкі глядзеў і сказаў: — Але!

— Сонца у хвалях як пышыць жарам! —
Ты з захапленьнем сказала мне.
Вусны твае палыхалі пажарам.
Я уздыхнуў і сказаў: — Але!

— Глянь, як хвалі вясёла ўзгулялісь! —
Ты прытуліўшысь, сказала мне.
Я адчуваў — твае грудзі ўздымалісь —
І шчыра сказаў: — Але!

— Ці ты любішь вясновае мора? —
Так запыталася ты ў мяне.
Абхапіў я твой стан пакорны
І гарача сказаў: — Але!

**Пятро Сакол.**

28. IV. 1930 г.

## Песьня моладзі.

Наперад, брат! Здабыць свабоду!
За волю, долю і спакой,
За лепшы лёс свайму народу —
Наперад дружнай грамадой!
Мы ўстанем шчыльнаю сьцяною
І пойдзем шлях свой прабіваць, —
Працоўнай моцнаю рукою
З раба кайданы будзем рваць!
Туды! — дзе вечны плач з жальбою,
Дзе цёмны брат наш сьлёзы льець,

Дзе пад бязлітаснай пятою
Бядак ланцуг сабе куець.
Наперад, брат, ідзі ты сьмела!
Пара адплату ўзяць за труд,
Зьняць кайданы цяжкія з цела,
Адкінуць прэч адвечны бруд!
Пад сьцягам бел-чырвона-белым
Нас не ўстрашыць пузаты туз —
І крокам моцным, вольным, сьмелым
За намі пойдзе Беларус!

**Саўка Сьлядзеўскі.**

**Грамадзяне! надсылайце падпіску на 1934 год! Хто застауся вінны за 1933 год — просімо прысьпяшыць з аплатаю. Грошы пасылаць па адрасу: Rigā, Elija ielā 20 dz. 25. „Bielaruskaja Skola u Latvii“.**

# З жыцьця Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

Агульны Сход сяброў Т-ва адбыўся 7 кастрычніка у памешканьні Беларускае гімназіі у Рызе. Сход быў склікаоы для заслуханьня дакладу прадстаўніка Уселатвійскай Вучыцельскай Бальнічнай Касы, гр. Я. Абэрбэрга, а таксама для абмену думак у справе перавыбараў упаўнаважаных у гэтую касу. З дакладу Я. Абэрбэрга высьветлілася, што Уселатвійская Вучыцельская Бальнічная Каса год-ад-году усё больш умацоўвае свой стан і палепшае абслугоўваньне вучыцельства. Каса мае сваю амбуляторыю і шэраг габінэтаў (зубны, рэнтгэнаўскі, горнага сонца, масажу вуха і горла) у памешканьні Вучыцельскага Дому у Рызе на Dzirnavu ielā 12, а таксама сетку раёных дахтароў па усей Латвіі. Для нэрвова-хворых настаўнікаў Каса мае Дом Адпачынку, які арганізаваны у замку Дурбэ у Курляндыі; замак гэты быў ад дзяржавы прысуджаны нябошчыку Яну Райнісу, а апошні перадаў замак у падарунак Уселатвійскаму Вучыцельскаму Хаўрусу. Для вучыцялёў хворых на сухоты, Каса мае асобную санаторыю у Інчукалне, якая абарудавана па усіх правілах сучаснае лячэбнае тэхнікі. Для рэўматыкаў Каса мае прытулак у Кэмэрне.

Заслухаўшы даклад Я. Абэрбэрга, Сход ухваліў прыняць чынны удзел у перавыбарчай кампаніі у Касу і выставіў сваім прадстаўніком на сьпісак упаўнаважаных гр. К. Езавітава.

У бягучых справах на Сходзе былі абгавораны пытаньні аб 2% сяброўскіх складак на падтрыманьне прыватнае Торэнзбэргскае школы Т-ва. Прычым гр. Я. Абэрбэрг, які зьяўляецца сябром Мястовае Управы г. Рыгі, абяцаў падтрымаць справу выдачы школе дадатковае дапамогі ад гораду.

**Дапамога ад гораду Рыгі на Торэнзбэргскую школу Т-ва** пастановай Мястовае Управы павялічана на 2000 латаў, бо у проэкце Мястовае Думы на 1933 г. было прадугледжана усяго толькі 2000 латаў. Гэткім чынам у бягучым 1933 г. будзе атрымана тая-ж сума (4000 латаў), што і у мінулым 1932 годзе. Прызначэньне гэтае дапамогі хоць і выратоўвае школу з таго катастрафічнага грашовага стану, у якім яна была апынуўшыся пасьля пастановы Думы аб скарачэньні дапамогі на 50%, аднак у параўнаньні з мінулым годам матар'яльны стан школы усё яшчэ зьяўляецца дужа цяжкім, бо ад Беларускага Аддзелу — замест 1200 лат, як было у мінулым годзе, — зара' на бягучы год у дапамогу школе вызначана усяго толькі 450 латаў. Такім чынам розных дапамог у 1933 годзе школе прысуджана усяго 4450 латаў, у той час як у мінулым годзе было прызначана 5200 латаў. Да гэтага трэба дадаць, што ад мінулага году па школе асталося рознае запазычанасьці (у Пэнсыйны Фонд, у Бальнічную Касу, у магазын навучальных дапамог пры Міністэрстве Асьветы ды розным прыватны асобам) больш як 1300 латаў. Запазычанасьць гэтую зара' з вялікімі высілкамі прыходзіцца пакрываць з памянёнага буджэту школы.

Ня гледзячы на цяжкі матар'яльны стан, агульная праца школы значна палепшылася, бо і Пэдагогічная Рада і Школьная Рада і Цантральнае Праўленьне Т-ва старанна працуюць над яе уздоймам і умацаваньнем. Школу адведвае ужо значна больш лік вучняў; ад пачатку 1933-34 нав. году у школе працуе ужо 5 клясаў; запрошаны шэраг новых настаўнікаў; адпаведна пераабарудавана і адрамантавана школьнае памешканьне, нават пабудавана сталая сцэна для школьных пастановак.

**Вячэрнюю школу для дарослых у Торэнзбэргу** ухваліла арганізаваць Т-ва Беларускіх Вучыцялёў. Адпаведны статут пададзены ужо на зацьверджаньне у Міністэрства Асьветы.

**Міністар Асьветы зацьвердзіў Статут Беларускага Дзіцячага Саду Т-ва** Беларускіх вучыцялёў у Рызе. Статут прадугледжывае адчыненьне дзіцячых садоў пры усіх трох беларускіх асноўных школах у Рызе, але у першую чаргу адчыняецца Беларускі Дзіцячы Сад на Чырвонай Дзьвіне. Кіраўніцай гэтага Саду, па захадах Цантральнага Праўленьня Т-ва, зацьверджана гр. Эмілія Казак-Казакевіч. Прыймо і запіс дзяцей прыймаюцца у канцалярыі 2-й беларускай школы на Сымонаўскай вул. 14-16.

**Перарэгістрацыя сяброў Т-ва Беларускіх Вучыцялёў**, згодна з пастановай Агульнага Сходу ад 28 траўня г. г., заканчываецца у канцы сьнежня. Тыя з сяброў, якія не прыступілі да упарадкаваньня сваіх сяброўскіх складак, будуць з 1 студзеня 1934 году выключаны з ліку сяброў Таварыства Беларускіх Вучыцялёў, а таксама і з ліку сяброў Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу.

**Прыймо новых сяброў у Т-ва** у 1933 годзе праводзілася толькі пасьля належнае рэкамэндацыі з боку старэйшых сяброў Т-ва. За 10 месяцаў ад пачатку 1933 году прынята было усяго 7 новых сяброў: Язэп Клагіш, Язэп Каяла, Павал Пырсікаў, Эмілія Казакевіч, Серафім Дынабургскі, Мячаслаў Юркевіч і Вікторыя Доўгая.

**На вакантныя пасады у беларускіх школах** Т-ва Беларускіх Вучыцялёў ухваліла праводзіць выключна тых кандыдатаў з маючых правы вучыцялёў беларусаў, якія зьяўляюцца правадзейнымі сябрамі Т-ва Беларускіх вучыцялёў. Аб пастанове гэтай ухвалена паведаміць Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы, Школьныя і Пэдагогічныя Рады беларускіх школ, а таксама і адпаведныя Школьныя Управы, як у гарадох, гэтак і на паветах.

**На 26-ю дэлегацкую Конфэрэнцыю Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу,** якая адбудзецца 3 студзеня 1934 году у Рызе у памешканьні 4-е гімназіі на Гайсінскай вуліцы 3, ад Цантральнага Праўленьня Т-ва Беларускіх вучыцялёў дэлегуюцца: старшыня Т-ва С. Сахараў і скарбнік К. Езавітаў. Апрача таго прапануецца дэлегаваць прадстаўнікоў на Конфэрэнцыю ад Дзьвінскага і Люцынскага Аддзелаў Т-ва. Парадак працы Конфэрэнцыі гэткі: 1) Адчыненьне і прывітаньні. 2) Пытаньне аб Конституцыі у Сойме — даклад старшыні Сойму Д-ра Паўла Калныньша. 3) Новыя тэндэнцыі у школьнай політыцы: а) Культполітыка — Я. Флугін; б) Прасьветная політыка Сойма — К. Дэкенс; в) Наблізеньне асваўной школы да жыцьця — Р. Лепіньш; г) Сярэдняя школа і жыцьцё — М. Біккерт; д) Прафэсыйная школа — Э. Рытманіс. 4) Матар'яльны стан вучыцельства — Фр. Вітэнбэрг. 5) „Mūsu Nākotne“. 6) Розныя Пытаньні.

**Пераводы беларускіх вучыцялёў у правінцыі** з аднае школы у другую прадаўжаюцца і у гэтым годзе. На гэтых днях маюць быць перакінуты адзін на мейсца другога: вучыцелька Хлебнікава з Лупандаўскай школы і вучыцель Красьневіч з Кокінскае школы. Мы яшчэ не атрымалі вестак ці робяцца гэтыя пераводы са згоды памянёных вучыцялёў, але мусімо адзначыць, што частыя пераводы вучыцялёў бязумоўна адмоўна адбіваюцца як на стане школ, гэтак і на дабрабыце настаўпіцтва. Таму гэткае „перакідваньне“ нашых вучыцялёў з школы у школу трэба, нарэшце, спыніць.

**Рэвізыйная Камісія Т-ва Беларускіх вучыцялёў** прыступіла да абрэвізаваньня спраў і грашовых кніг усіх установ і аддзелаў Т-ва. Ужо абрэвізаваны каса і дзелаводзтва Цантральнага Праўленьня і Рыскае гімназіі Т-ва ды прыступлена да рэвізыі касы і дзелаводзтва Торэнзбэргскае прыватнае школы у Рызе. На Калядных канікулах будуць абрэвізаваны Люцынскі і Дзьвінскі аддзелы Т-ва ды Гараўская прыватная школа. З прыемнасьцю можна адзначыць, што сябры цяперашняе Рэвізыйнае Камісіі Т-ва дужа сумленна ставяцца да сваіх абавязкаў і ня шкадуюць сіл і часу на тое, каб увайсьці у курс усіх спраў Т-ва.

**Цантральнае Праўленьне.**

## З жыцьця Беларускае Моладзі у Латвіі.

**Пустынскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** 29 верасьня зладзіў спэктакль-вечарыну з пастаноўкай п'есы „Міхітаў лапаць“. Аўтарытэтнасьць пастановак Аддзелу у ваколічнага жыхарства і кірмашны дзень сабралі шмат публікі на вечарыну-спэктакль. Пастаноўка, як і папярэднія, прайшла з добрым пасьпехам, выклікаючы васёлы і добры настрой у прысутных.

**Прыдруйскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** 8 кастрычніка ладзіў спэктакль-вечарыну з п'есай „Па рэвізыі“. Рэдка ладжаныя спэктаклі у гэтым Аддзеле выклікаюць зацікаўленьне жыхарства, якое з прыемнасьцю адведвае беларускія вечарыны.

**Рыскім Цантральным Аддзелам Т-ва Беларускае Моладзі** 14 кастрычніка быў наладжаны спэктакль-вечарына з пастаноўкай драмы „Дзядзька Якуб“, якую адыгралі артысты Беларускага Тэатру. Пасьля п'есы былі прасьпяваны гр. Г. Бедаравай некалькі беларускіх песьняў пад акампанімэнт кампазытаркі Ю. Александровіч-Фэльдман. Уражаньне ад цяжкой драмы Ф. Аляхновіча „Дзядзька Якуб“ было улагоджана мелёдычнымі сьпевамі г-кі Бедаравай, якая выканала з пачуцьцём ня толькі народныя, але і новыя песьні кампазыцыі г-кі Александровіч-Фэльдман. Вечарына прайшла з надзвычайным пасьпехам і, ня гледзячы на вялікія выдаткі, дала чыстага прыбытку каля 35 латаў.

**Лекцыі прачытаныя у Рыскім Цантральным Аддзеле Т-ва Беларускае Моладзі:** 1) 1 кастрычніка у школе на Латгальскім (Маскоўскім) прадмесьці г. Рыгі была прачытана лекцыя на тэму: — „Гісторыя вызваленьня паняволеных народаў“; 2) 22 кастрычніка у Торэнзбэргскай школе была прачытана лекцыя на тэму — „Лёсы народаў Расейскай манархіі“; 3) 12 лістапада у школе на Чырвонай Дзьвіне прачытана лекцыя на тэму — „1905 год на Беларусі“. Усе тры лекцыі прачытаў Я. Клагіш. 4) 27 лістапада у школе у Торэнзбэргу зачытана лекцыя на тэму — „Вучыцель як грамадзкі працаўнік“. Лекцыю прачытала курсантка Вучыцельскіх Курсаў В. Васільева. Дзеля збліжэньня і азнаямленьня беларускай моладзі. Пасьля азначаных лекцый ладзіліся гульні, сьпевы і танцы. Як практыка паказвае, та-

кія лекцыі шмат даюць у сэнсе развіцьця грамадзкага нашай моладзі, а таму Цантральнае Праўленьня прадбачае ладзіць падобныя лекцыі надалей ня тольні у Рызе, але і на вёсках.

**Агульны Гадавы Сход Т-ва Беларускае Моладзі у Латвіі** адбыўся 19 лістапада. Старое Праўленьне зрабіла даклад аб працы за 1933 год і аб пляне працы на будучы год. Пасьля абгаварываньня дакладу Агульны Сход вырашыў выказаць шчырую падзяку за актыўную і энэргійную працу старому Праўленьню.

Разам з тым была вынесена падзяка Агульнага Сходу Пустынскаму Аддзелу Т-ва за актыўную працу і пажаданьне надалей бязупыннай і энэргійнай працы на карысьць арганізацыі нашай моладзі у Пустыншчыне. На гэтым сходзе было абрана новае Цантральнае Праўленьне, у склад якога увайшлі: Старшыня — Казімер Мяжэцкі, заступнік старшыні — Язэп Клагіш, сэкратар — Міхась Зуеўскі, скарбнік — Мечыслаў Слосман, сябра — Браніслава Станкевіч. У Рэвізыйную Камісію абраны: У. Гусарэвіч, А. Рытаў і Я. Дзігілёў.

**Адчыненьне новага Аддзелу Т-ва Беларускае Моладзі.** Акружным Судом зацьверджаны новы Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі у г. Рызе на Маскоўскім прадмесьці. Аддзел налічвае 25 сяброў. На арганізацыйным сходзе было абрана часовае Праўленьне гэтага Аддзелу у складзе: старшыня — Язэп Каяла, заступнік старшыні і скарбнік — Адольф Андрашун і сэкратар — Яглінскі. Жадаемо новаму Аддзелу посьпеху у працы сярод беларускае моладзі Латгальскага прадмесьця.

**Цантральнае Праўленьне.**

## Сходы бацькоў у Рыскіх беларускіх школах.

**Агульны сход бацькоў 1-е Рыскае беларускае асноўное школы** адбыўся 24 верасьня у зале школы на В. Маскоўскай 173. На сходзе было прысутна больш 70 бацькоў, якія абралі у склад Школьнае Рады 8 прадстаўнікоў, па ліку клясаў у школе: Б. Сташкевіч, Г. Клагіш, У. Савіцкі, Т. Навіцкі. А. Буль, Я. Громаў, А. Воўзан. Ад Пэдагогічнае Рады прадстаўнікамі у Школьную Раду абраны вучыцялі: М. Даль, М. Тэтар, Я. Каяла, М. Краўчанка, К. Езавітаў, Н. Крэйц. А. Радзько і Я. Камаржынскі. Кіраўнік школы С. Сіцько і школьны дохтар З. Кісін уваходзяць у Школьную Раду бяз выбараў, як абавязковыя сябры. Такім чынам Школьная Рада школы складаецца у гэтым годзе з 18 чалавек. Старшынёй Школьнае Рады абраны Б. Сташкевіч, сакратаром—К. Езавітаў, скарбнікам—М. Краўчанка. **С. С—ко.**

**Агульны сход бацькоў 2-й Рыскай беларускай асноўной школы** адбыўся 22 кастрычніка у памешканьні школы на Сымонаўскай 14-16. На сходзе было прысутна 50 бацькоў, якія абралі ад сябе 4 прадстаўнікоў у Школьную Раду. Старшынёй Школьнае Рады абраны Ф. Жынгель, сакратаром—Мяжэцкі, скарбнікам—Я. Влажэвіч, вольным сябром — К. Сянкевіч. Ад Пэдагогічнае Рады прадстаўнікамі у Школьную Раду абраны: Б. Юр'еўская, Г. Нікіфароўская, Я. Кудраўцаў і Н. Юзэфовіч. Кіраўнік школы Г. Плыгаўка і школьны дохтар Мазур уваходзяць у Школьную Раду аўтаматычна, на моцы закону. Такім чынам Школьная Рада складаецца з 10 чалавек. **Г. П—ка.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

**Паважаны грамадзянін Рэдактар!**

Да мяне дайшлі чуткі, распаўсюджаныя некаторымі асабістымі маімі ворагамі, нібыта я зьяўляюся здрайцам беларускае справы, быццам я перайшоў працаваць супроць беларусаў і гэтак далей, нават пранануюць берагчыся ад мяне.

Мушу зазначыць, што усё гэта—ганебная хлусьня. Гэтыя грамадзяне, шмат дапамогшы у сваім часе сваімі языкамі майму звальненьню з пасады, зараз хочуць яшчэ запэцкаць маё грамадзкае імя. Ніколі я супроць беларускіх спраў ня йшоў і ня думаю ісьці. Заўсёды і усюдых старанна працаваў, а калі і змагаўся з кім, дык з розным сьмяцьцём, што прымазалася было да беларусаў, але стыдалася усяго беларускага і не адважвалася на чужых людзях прызнаць сябе беларусамі.

Я прызвычаіўся пакутаваць за беларушчыну яшчэ з школьнае лаўкі, калі у мяне вучыцялі „выбівалі" маю беларускую вымову, сядзеў я ужо і у турме за беларускую працу, цярпеў розныя крыўды, дык перацярплю і зараз, але быў я заўсёды і астануся шчырым беларусам.

Хай будзе сорам усім тым, хто ганебна брэша на мяне з па-за вугла!

З шчырай да Вас пашанай **Мікола Талерка.**

Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў.** Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**

Друкарня Г. Іге, Рыга, Стары Горад, Vecpilsēta, 8. Тэлефон 34212.